• выдаецца са жніўня 1917 г.

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

• кошт 3000 рублёў

1 снежня 1998 г. аўторак, № 233 (23584)

# ЗВЯЗДА



## За кожнай лічбай — чалавек

*1 снежня — Сусветны дзень прафілактыкі СНІД*

На пачатку кожнага месяца Беларускі цэнтр прафілактыкі СНІДу называе новыя лічбы ВІЧ-інфіцыраваных. На 1 снежня 1998 года усяго па рэспубліцы зарэгістраваны 2291 ВІЧ-інфіцыраваны. Найбольш носьбітаў вірусу выяўлена ў Гомельскай вобласці — 1823 чалавекі. Але інфекцыя працягвае распаўсюджвацца па іншых рэгіёнах рэспублікі: у Брэсцкай вобласці 75 выпадкаў ВІЧ-інфекцыі, Магілёўскай — 74, Віцебскай —34, Гродзенскай —13. У Мінскай вобласці на 1 снежня былі 34 ВІЧ-інфіцыраваныя, але ў самой сталіцы гэтая лічба намнога большае — 235. Праўда, усе гэтыя даныя толькі прыблізна адлюстроўваюць сапраўднае становішча, бо, як лічаць спецыялісты, на аднаго выяўленага прыпадае 10 нявыяўленых.

504 выпадкі былі зарэгістраваны па рэспубліцы за адзінаццаць месяцаў гэтага года. За ўвесь час, калі вірус трапіў у Беларусь — з 1987 года, памерлі 38 інфіцыраваных.



*Старыя казкі новага сезона.* **Фота Юрыя ЗАХАРАВА.**

## ЧАРГОВАЕ ПАСЯДЖЭННЕ РЭСПУБЛІКАНСКАГА ШТАБА ПРАЙШЛО ПАД КІРАЎНІЦТВАМ АЛЯКСАНДРА ЛУКАШЭНКІ

**Надзённыя пытанні эканомікі і сітуацыя на спажывецкім рынку былі разгледжаны на чарговым пасяджэнні Рэспубліканскага штаба пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, якое правёў 27 лістапада кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка.**

У пасяджэнні прынялі ўдзел прэм'ер-міністр Сяргей Лінг, кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіл Мясніковіч, дзяржаўны сакратар Савета бяспекі Віктар Шэйман, старшыня Камітэта дзяржаўнага кантролю Мікалай Дамашкевіч, паўнамоцны прадстаўнік Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у органах інтэграцыі — намеснік прэм'ер-міністра Васіль Далгалёў, віцэ-прэм'еры Валерый Кокараў, Генадзь Навіцкі, Уладзімір Замяталін, Леанід Козік, Аляксандр Папкоў, генеральны пракурор Рэспублікі Беларусь Алег Бажэлка, старшыня Вярхоўнага суда Валянцін Сукала, старшыня Вышэйшага гаспадарчага суда Уладзімір Бойка, кіраўнік спраў Прэзідэнта Іван Ціцянкоў, начальнік Галоўнага дзяржаўна-прававога ўпраўлення Адміністрацыі Прэзідэнта Аляксандр Плаксіцкі, міністры, упаўнаважаныя прэзідэнта, інспектары Адміністрацыі Прэзідэнта, старшыні абласных выканаўчых камітэтаў і Мінскага гарвыканкама.

На пасяджэнні было адзначана, што за час дзеяння Рэспубліканскага штаба пры Прэзідэнце Беларусі сітуацыя ў эканоміцы і на спажывецкім рынку крыху стабілізавалася. Па асобных напрамках ёсць істотныя зрухі ў лепшы бок. Напрыклад, на большасці прамысловых прадпрыемстваў рэзка скараціліся астаткі прадукцыі на складах. Адбыліся змены таксама на харчовым рынку. Крыху палепшылася за апошні час забеспячэнне насельніцтва асноўнымі прадуктамі харчавання. Створаны іх запас на сёлетнюю зіму. Сталі відавочнымі і некаторыя зрухі ў цэнаўтварэнні. Усё гэта ў пэўнай ступені аздаравіла абстаноўку ў грамадстве, хоць напружанасць у ім, незадаволенасць сярод людзей сацыяльным пераўтварэннямі ўсё яшчэ працягваюць захоўвацца.

На пасяджэнні падкрэслівалася, што калі прамысловыя прадпрыемствы, за выключэннем радыёэлектроннай прамысловасці, у апошні час крыху падцягнуліся ў рабоце, то аграпрамысловы комплекс пакуль не змог рэалізаваць усе свае магчымасці. Па-ранейшаму шмат прэтэнзій да гандлю, перш за ўсё сельскага. Па шэрагу пазіцый у АПК, іншых галінах недастаткова працуюць Мінская і Брэсцкая вобласці. Лепш выглядаюць на іх фоне Гродзенская, Гомельская, Магілёўская і Віцебская вобласці. Напрыклад, паводле слоў старшыні Камітэта дзяржаўнага кантролю Мікалая Дамашкевіча, у Віцебскай вобласці рознічныя цэны на многія харчовыя тавары ніжэйшыя, чым у цэлым па рэспубліцы.

Сур'ёзныя папрокі былі выказаны прэзідэнтам у адрас старшынь Мінскага і Брэсцкага аблвыканкамаў Пятра Пётуха і Уладзіміра Заламая. Звернута ўвага міністра гандлю Пятра Казлова і старшыні «Белкаапсаюза» Віктара Уладыкі на неабходнасць актывізацыі работы па насычэнню харчовага рынку, навядзенню належнага парадку ў гандлі.

З заключным словам на пасяджэнні штаба выступіў Аляксандр Лукашэнка. Ён акрэсліў асноўныя напрамкі, на якіх павінны развівацца ў бліжэйшы час эканоміка і ўвесь народнагаспадарчы комплекс краіны. Прэзідэнт адзначыў, што праведзенне ўзаемаразліку паміж суб'ектамі гаспадарання Беларусі і Расіі нармалізавалася, таму пастаўкі беларускіх тавараў на расійскі рынак павінны павялічыцца. У той жа час ён даручыў Савету бяспекі і праваахоўчым органам прыняць усе меры для прадухілення несанкцыянiраванага вывазу тавараў за межы краіны.

У прамысловасці, сельскай гаспадарцы, паводле слоў Аляксандра Лукашэнкі, на ўсіх узроўнях кіравання неабходна ўзмацніць патрабаванне за выкананне работнікамі і кіраўнікамі сваіх абавязкаў.

Аляксандр Лукашэнка нагадаў, што большасць яго даручэнняў павінна быць выканана да 1 студзеня 1999 года.

**Алег ШВЕДАЎ, БЕЛТА.**

## СУД АДХІЛІЎ ХАДАЙНІЦТВА АБ ЗМЯНЕННІ МЕРЫ СТРЫМАННЯ ДЛЯ ВАСІЛЯ СТАРАВОЙТАВА

Учора ў Кіраўскім раённым суддзе пачалося слуханне крымінальнай справы былога старшыні ЗАТ АПА «Рассвет» Васіля Старавойтава і двух яго намеснікаў: кіраўніка рыбнай гаспадаркі Алега Шапавалава і начальніка фарбацэха Аляксандра Яўстратава.

Адводаў саставу суда, сакратару і пракурору заяўлена не было. Адвакат Вера Стрмакоўская, якая прадстаўляе ў судзе інтарэсы Васіля Старавойтава, звярнулася з хадайніцтвам аб допуску да працэсу грамадскага абаронцы, прадстаўніка праваахоўнай арганізацыі «Беларускі Хельсінкскі камітэт» Гары Паганяйла. Суд гэта хадайніцтва задаволіў.

Другое хадайніцтва Веры Страмкоўскай датычылася змянення меры стрымання для Васіля Старавойтава. Адвакат настойвала, каб суд улічыў паважны ўзрост — 75 гадоў — падсуднага і яго стан здароўя, а таксама і той факт, што ўмовы ўтрымання ў следчым ізалятары горада Бабруйска, куды нядаўна ў сувязі з судовым працэсам у Кіраўску быў пераведзены Васіль Старавойтаў, значна адрозніваюцца ад умоў ізалятара КДБ у Мінску ў горшы бок. Адваката падтрымаў і Гары Паганяйла, які прасіў суд улічыць былыя заслугі «чалавека-легенды» і ўзнагароды Старавойтава: званне двойчы Героя Сацыялістычнай Працы, тры ордэны Леніна, ордэн Кастрычніцкай рэвалюцыі, Чырвонай Зоркі і іншыя. Суд пад старшынствам Надзеі Чмара вызначыў, што падсудны зараз можа ўтрымлівацца ў следчым ізалятары пры ажыццяўленні пастаяннага медыцынскага нагляду. У момант агучвання гэтага вызначэння Васілю Канстанцінавічу стала дрэнна, але ён адмовіўся ад дапамогі ўрача, які пастаянна знаходзіцца ў зале суда. Старшыня суда Надзея Чмара прасіла ўсіх прысутных на працэсе, і Старавойтава асабіста, не перанапружвацца, бо працэс будзе доўгім, і своечасова прасіць аб дапамозе.

Адвакат і грамадскі абаронца В. Старавойтава таксама звярнуліся да суда з хадайніцтвам аб накіраванні справы на даследаванне і аб'яднанні са справай былога міністра сельскай гаспадаркі Васіля Лявонава. Актыўна падтрымаў гэта хадайніцтва і сам падсудны: Васіль Старавойтаў лічыць, што асноўныя эпізоды яго справы звязаны з Васілём Лявонавым, а таму, па ягонаму меркаванню, «Лявонаў павінен чуць, што тут адбываецца».

Суд хадайніцтва аб аб'яднанні спраў ці выдзяленні агульных эпізодаў у асобную справу не падтрымаў, але вызначыў даты выкліку ў судзе Васіля Лявонава ў якасці сведкі.

Пасля гэтага суд прыступіў да агучвання абвінавачага заключэння па справе Васіля Старавойтава. Мяркуецца, што гэты судовы працэс працягнецца не менш як два-тры месяцы.

**Ілона ІВАНОВА.**

*Кіраўскі раён.*

## «Паляўнічыя за трактарамі»

Раскрадальнікі некалькі разоў спрабавалі вывезці з МТЗ буйныя партыі трактараў па падробленых дакументах. Але ўсякі раз іх аферы раскрываліся. Як паказвае практыка, за межамі прадпрыемства зладзеі дзейнічаюць больш паспяхова.

У адной з вёсак Гродзенскага раёна ў час праверкі супрацоўнікамі мясцовага райаддзела малога прадпрыемства быў устаноўлены факт выкрадання вялікай партыі трактароў. У кастрычніку, як паказвае папярэдняе следства, невядомы, які прадставіўся інжынерам аднаго з саўгасаў, па падробленых дакументах атрымаў у іх 20 трактароў «МТЗ-82» на агульную суму 6,9 мільярда рублёў. Пасля гэтага ён знік. Узбуджана крымінальная справа.

**Васіль НІКАЛАЕЎ.**

## УВАГА: «ПРАМАЯ ЛІНІЯ»

***На пытанні чытачоў «Звязды» адкажа міністр сацыяльнай абароны Вольга Браніславаўна ДАРГЕЛЬ***

Паўная стабілізацыя ў эканоміцы краіны, якой удалося дасягнуць у першай палове года, як быццам давала дадатковыя магчымасці і надзеі для падтрымкі самых неабароненых катэгорый нашых грамадзян. Усё змянілася літаральна за апошнія месяцы. У выніку ў найбольш складаным становішчы апынуліся перш-наперш беларускія пенсіянеры, інваліды, сем'і, што выхоўваюць дзяцей, былыя ваеннаслужачыя. На што спадзявацца і на якую падтрымку дзяржавы разлічваць усім ім далей? Аб гэтым і шмат аб чым іншым мы прапануем пагутарыць чытачам газеты падчас «прамой лініі» непасрэдна з міністрам сацыяльнай абароны Вольгай Браніславаўнай Даргель. Размова адбудзецца 9 снежня з 11 да 12 гадзін па рэдакцыйных тэлефонах: (8-017) 232-38-21, 232-38-92. Папярэднія званкі прымаюцца па тэлефоне (8-017) 268-27-57. Адрас для пісьмовых зваротаў: 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».

## УВАГА: «Прамая лінія»!

***Вам адкажа міністр жыллёва-камунальнай гаспадаркі Барыс Васільевіч БАТУРА.***

Усіх нас, вядома, хвалююць шматлікія штодзённыя жыллёвыя пытанні. Ці будзе цёпла ў кватэрах, якой вадой мы будзем карыстацца, колькі прыйдзецца плаціць у далейшым за камунальныя паслугі — колькасць праблем амаль астранамічная.

«Прамую лінію» «Звязда» праводзіць **10 снежня з 14 да 15 гадзін.** Задаць свае пытанні міністру ў гэты час можна па тэлефонах: **(8-017) 232-38-21, 232-38-92.** Папярэдне чакаем вашых званкоў па тэлефоне (8-017) 268-27-51 і пісьмовых зваротаў па адрас рэдакцыі.

## Беларусы «накацілі» датчан

У мінулую суботу Нацыянальная зборная Беларусі па баскетболу выйграла другі раз запар адборачны матч да чэмпіянату Еўропы-99. На гэты раз падначаленыя Анатоля Якубенкі адолелі аўтсайдэраў групы «С» — датчан на іх пляцоўцы ў Капенгагене. Лік сустрэчы — 69:58. Апошні адборачны матч у гэтым сезоне беларуская зборная правядзе заўтра ў сталічным Палацы спорту супраць каманды Іспаніі.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

### КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 30 ЛІСТАПАДА 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (017) | | | | | | | |
| Белбізнесбанк (гал. апер. упр.) | 200000 | 220000 | 117500 | 129200 | 11000 | 12400 | 276-95-31 |
| Нацыянальны банк РБ афіцыйны курс (курс для безнаяўных разлікаў) | 80000 | | 46802,78 | | 4480 | | Курс на 1.12.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 17,8800 | | 10,4433 | | | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

## Усміхнёмся!





Малюнак Яўгена ЦАРКОВА.

*Прадказальніца кажа маладой жанчыне:*

*— Хутка вы пазнаёміцеся з прыгожым брунетам і будзеце з ім жыць шчасліва.*

*— А вы не маглі б мне сказаць, як да гэтага будзе ставіцца мой муж?*

*Учора я купіў у букіністычнай лаўцы кнігу «Як стаць мільянерам?» Але толькі дома заўважыў, што палова старонак ие вырвана.*

*— Нічога страшнага, паўмільёна табе таксама не перашкодзяць.*

***ХОДЗЯЦЬ ЧУТКІ, ШТО ...***

## У СНЕЖНІ ПАДАРАЖЭЮЦЬ ГАРЭЛКА І СОЛЬ

Усе мы яшчэ памятаем, як нечакана і моцна падскочыў кошт гарэлкі айчыннай вытворчасці 19 лістапада. Днямі ж сярод пакупнікоў гэтага напою праляцела пагалоска, што гарэлка ў снежні зноў падаражэе, толькі зараз на 50 працэнтаў. Сёння самыя «інфармаваныя» крыніцы нават называюць мінімальны кошт бутэлькі гарэлкі — 300 тысяч рублёў.

Супрацоўнік аддзела збыту аб'яднання «Крышталь» паведаміў рэдакцыі, што на сённяшні дзень ніякіх афіцыйных папер накошт павышэння цаны на гарэлку яны не атрымлівалі.

Першы намеснік старшыні Камітэта цэн пры Міністэрстве эканомікі Беларусі Уладзімір Адашкевіч адказаў рэдакцыі, што чуткі аб хуткім павелічэнні кошту гарэлкі не што іншае, як дурныя жарты. Па яго словах, пытанне аб павелічэнні кошту айчыннай гарэлкі сёння нават увогуле нікім не ставіцца.

Што датычыцца цаны на соль, то і яна вельмі моцна ў хуткім часе павялічвацца не будзе. Па меркаванню аднаго з адказных работнікаў Камітэта цэн, павелічэнне цэн на соль у снежні калі і адбудзецца, то не болей чым на 5—10 працэнтаў.

**Сяргей КУРКАЧ.**

# ВЕСЦІ ПРАМЫ І ШЫРОКІ ДЫЯЛОГ З ГРАМАДЗЯНАМІ КРАІНЫ

**Як паведаміла ў БЕЛТА прэс-служба прэзідэнта, Аляксандр Лукашэнка прыняў са справаздачай намесніка кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Івана Пашкевіча.**

Іван Пашкевіч далажыў аб тым, што завершана фарміраванне структуры для інфармацыйнай работы з насельніцтвам. У рамках стварэння гэтай вертыкалі, акрамя ўпраўленняў і аддзелаў у сістэме органаў выканаўчай улады, на прадпрыемствах з колькасцю звыш 300 чалавек, а ў сельскай гаспадарцы — звыш 100 чалавек уведзены пасады намеснікаў кіраўнікоў па інфармаванню і грамадскіх сувязях.

Кіраўнік дзяржавы адзначыў важнасць утварэння гэтай структуры і даў канкрэтныя даручэнні па ўдакладненню функцыянальных абавязкаў кіруючых работнікаў, якія займаюцца пытаннямі інфармавання ў працоўных калектывах. Пры гэтым было ўказана на недапушчальнасць сумяшчэння намеснікамі старшынь абл-, рай-, гарвыканкамаў па інфармаванню і грамадскіх сувязях сваёй дзейнасці з выкананнем іншых функцый.

Намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта праінфармаваў Аляксандра Лукашэнку і аб рабоце, якая праводзіцца па выніках нарады з вядучымі вучонымі-грамадазнаўцамі рэспублікі. Прэзідэнт падтрымаў план мерапрыемстваў, накіраваных на фарміраванне агульных падыходаў у выпрацоўцы канцэпцыі дзяржаўнай ідэалогіі.

Кіраўнік дзяржавы даў канкрэтныя ўказанні, якія датычаць падрыхтоўкі яго сустрэчы з прадстаўнікамі навукова-тэхнічнай і творчай інтэлігенцыі, кіраўнікамі шэрагу прамысловых і сельскагаспадарчых прадпрыемстваў. Ідэя правядзення такога мерапрыемства на базе Беларускага дзяржаўнага універсітэта была выказана Аляксандрам Лукашэнкам на ўпамянёнай нарадзе з грамадазнаўцамі. Сустрэча, падкрэсліў прэзідэнт, павінна прайсці ў духу публічнага абмеркавання найбольш актуальных праблем, якія стаяць перад грамадствам. Для забеспячэння такога дыялога прадугледжваецца стварэнне тэлефоннай «прамой лініі».

Іван Пашкевіч далажыў таксама аб становішчы спраў у сістэме дзяржаўных СМІ. Кіраўнік дзяржавы даў даручэнне стварыць II канал Беларускага радыё з размяшчэннем на сетках трансляцыі адной з расійскіх радыёстанцый.

Прадаўжаючы гэту тэму, прэзідэнт спыніўся на маладзёжным радыё. Было прызнана неабходным у мэтах стварэння маладзёжнага вяшчання, якое адпавядала б сучасным патрабаванням, увесці Белдзяржуніверсітэт у састаў заснавальнікаў радыё «Стыль». Такі падыход дасць магчымасць на базе гэтай радыёстанцыі праводзіць практыку студэнтаў факультэта журналістыкі БДУ, наладзіць вяшчанне з улікам спецыфікі маладзёжнай аўдыторыі.

Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што паступае мноства просьбаў аб падтрымцы ў адкрыцці новых радыёстанцый. Вітаючы працэс пашырэння радыёэфіру, Аляксандр Лукашэнка звярнуў увагу на слабую прапрацоўку ініцыятарамі такога пашырэння канцэпцыі вяшчання, арганізатарскіх формаў і пытанняў тэхнічнага аснашчэння. Намесніку кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Івану Пашкевічу даручана прапрацаваць гэта пытанне з улікам пашырэння саставу заснавальнікаў, кадравага забеспячэння і ўнесці канкрэтныя прапановы на разгляд кіраўніка дзяржавы.

**БЕЛТА.**

# ЮРЫЙ ЛУЖКОЎ І АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА СУСТРЭЛІСЯ ЯК ДОБРЫЯ СЯБРЫ

Візіт мэра Масквы ў Мінск не мае нічога агульнага з будучай прэзідэнцкай кампаніяй у Расіі, як аб гэтым паспелі паведаміць некаторыя расійскія сродкі масавай інфармацыі. Юрый Лужкоў прыехаў у беларускую сталіцу як добры сябар, які шмат робіць карыснага для нашай краіны, падкрэсліў у кароткім інтэрв'ю журналістам перад пачаткам сустрэчы з Юрыем Лужковым прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка. Яна прайшла ў рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы ў Вайсковым завулку 27 лістапада.

З гэтай сустрэчы пачаўся аднадзённы візіт у Мінск дэлегацыі ўрада Масквы на чале з яе мэрам. Юрый Лужкоў пацвердзіў журналістам, што яго візіт не мае ніякіх палітычных мэтаў. «Я прыехаў да свайго сябра прэзідэнта Беларусі, каб абмеркаваць выключна эканамічныя пытанні», — сказаў ён.

Юрый Лужкоў падкрэсліў, што падпісаныя раней пагадненні аб супрацоўніцтве паміж Масквой і Беларуссю прыносяць карысць абодвум бакам. Узаемны тавараабарот за апошні час павялічыўся ў два разы, і такую тэндэнцыю ў развіцці гандлёва-эканамічных адносінаў, на думку беларускага прэзідэнта і мэра расійскай сталіцы, неабходна захаваць.

У састаў дэлегацыі ўрада Масквы, паводле слоў Юрыя Лужкова, увайшла вялікая група спецыялістаў. Яны пабываюць на буйных сталічных прамысловых прадпрыемствах, а таксама ў НДІ анкалогіі і медыцынскай радыялогіі. Мэр Масквы сустрэнецца таксама з мэрам Мінска Уладзімірам Ярмошыным.

**Вольга ШЧАДРЫНА, БЕЛТА.**

# УРАД ПАТРАБУЕ АД ВЫТВОРЦАЎ ДАКЛАДНАСЦІ Ў ВЫРАШЭННІ ПАСТАЎЛЕНЫХ ЗАДАЧ

Шэраг важных эканамічных пытанняў быў разгледжаны на праведзеным пасяджэнні Прэзідыума Савета Міністраў Беларусі. У прыватнасці, аналізуючы сітуацыю, што датычыць выпуску мінеральных угнаенняў, члены ўрада адзначылі, што прадпрыемствы-вытворцы спраўляюцца з пастаўленымі задачамі. Вытворчыя аб'яднанні «Азот», «Палімір», «Беларуськалій» і Гомельскі хімічны завод, паводле інфармацыі Мінсельгасхарча, адправілі ўжо вёсцы 490 тысяч тон угнаенняў. Праўда, запазычанасць сялян у разліках з пастаўшчыкамі, што ўтварылася пры гэтым, складае больш як 400 мільярдаў рублёў. На экспарт беларускія прадпрыемствы адправілі сёлета ўгнаенняў у аб'ёме 74,6 працэнта ад устаноўленай квоты.

На пасяджэнні былі разгледжаны дадатковыя меры, накіраваныя на ўпарадкаванне экспарту лесаматэрыялаў. Па прапанове Мінлясгаса з 1 студзеня 1999 года продаж гэтай каштоўнай сыравіны будзе ажыццяўляцца толькі пры ўдзеле дзяржаўнага прадпрыемства «Беллесэкспарт», рэспубліканскага міжгаліновага навукова-вытворчага аб'яднання па знешнеэканамічнай дзейнасці «Белзнешгандальінвест», а таксама адкрытых акцыянерных таварыстваў «Лесдрэўпрам» і «Беллеспапера».

У ходзе абмеркавання пытання «Аб мерах па павышэнню эфектыўнасці работы электраэнергетычнай галіны» быў адзначаны шэраг недахопаў, выяўленых пры праверцы Камітэтам дзяржаўнага кантролю дзейнасці канцэрна «Белэнерга». Для іх ліквідацыі распрацаваны спецыяльныя мерапрыемствы. Сфарміравана таксама спецыяльная праграма павышэння эфектыўнасці работы канцэрна, разлічаная на 1999-2000 гады.

Акрамя таго, на пасяджэнні Прэзідыума Саўміна быў прааналізаваны ход выканання шэрагу раней прынятых рашэнняў, а таксама разгледжаны прапановы па перадачы часткі чыстага прыбытку ва ўласнасць членаў працоўнага калектыву вытворчага аб'яднання «Беларуськалій».

**Таццяна СМІРНОВА, БЕЛТА.**

# АФІЦЫЙНА

## РАШЭННЕ РЭСПУБЛІКАНСКАГА ШТАБА ПРЫ ПРЭЗІДЭНЦЕ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 9

## АБ СТАНЕ ГАНДЛЮ І РАЗЛІКАЎ З РАСІЙСКАЙ ФЕДЭРАЦЫЯЙ

1. Адзначыць, што ў кастрычніку 1998 г. тавараабарот з Расійскай Федэрацыяй склаў 717,6 млн. долараў ЗША, што значна менш, чым у кастрычніку 1997 г. (978,7 млн.долараў ЗША).

Зніжаецца аб'ём экспартных паставак. Так, у чэрвені 1998 г. у Расійскую Федэрацыю было пастаўлена прадукцыі на 401,3 млн. долараў ЗША, у жніўні — на 346,4, а ў верасні — толькі на 255,2 млн. долараў ЗША. У кастрычніку 1998 г. аб'ём экспарту ў адносінах да кастрычніка 1997 г. склаў усяго 64,3 працэнта.

У выніку апераджальнага зніжэння аб'ёмаў экспарту ў параўнанні са зніжэннем аб'ёмаў імпарту за 10 месяцаў 1998 г. склалася адмоўнае сальда знешнегандлёвага тавараабароту ў памеры 14,8 млн. долараў ЗША.

Гэтыя тэндэнцыі абумоўлены зніжэннем пакупной здольнасці суб'ектаў Расійскай Федэрацыі, нераўнацэннымі ўмовамі фарміравання цэн на экспартуемыя ў Расію беларускія тавары і на айчынныя расійскія тавары, а таксама аслабленнем маркетынгавай работы на расійскіх рынках і ўзаемадзеяння з галіновымі і рэгіянальнымі органамі Расійскай Федэрацыі. Ускладнены разлікі паміж суб'ектамі гаспадарання Расіі і Беларусі.

2. Прыняць да ведама інфармацыю намесніка прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Козіка Л.П. аб прымаемых урадам і Нацыянальным банкам мерах па нармалізацыі гандлю і разлікаў з Расійскай Федэрацыяй.

3. Лічыць недастаткова эфектыўнай арганізацыю знешнеэканамічнай дзейнасці галіновых органаў дзяржаўнага кіравання і гаспадарчых аб'яднанняў, падпарадкаваных ураду, а таксама работу міністэрстваў, адказных за каардынацыю знешнегандлёвай дзейнасці ў рэспубліцы і фарміраванне на міждзяржаўным і міжрэгіянальным узроўнях умоў для прасоўвання беларускіх тавараў на рынак Расіі.

4. Адзначыць, што ў мэтах захавання экспартнага патэнцыялу рэспублікі і павелічэння экспарту беларускіх тавараў на расійскі рынак неабходна:

4.1. Савету Міністраў у месячны тэрмін:

распрацаваць сістэму арганізацыйна-практычных мераў па пашырэнню рынкаў збыту айчыннай прадукцыі ў Расійскай Федэрацыі на аснове больш цесных сувязяў на ўзроўні яе рэгіёнаў па прыярытэтных, найбольш перспектыўных для рэспублікі напрамках эканамічнага супрацоўніцтва;

ацэньваць знешнеэканамічную дзейнасць суб'ектаў гаспадарання, аб'яднанняў, падпарадкаваных ураду, галіновых органаў дзяржаўнага кіравання з улікам вынікаў іх рэальнай работы непасрэдна ў рэгіёнах Расійскай Федэрацыі па заключэнню канкрэтных кантрактаў на пастаўку прадукцыі, стварэнню сумесных прадпрыемстваў, гандлёвых дамоў, фінансава-прамысловых груп, выкарыстанню іншых арганізацыйна-прававых формаў супрацоўніцтва;

забяспечыць выкананне прынятых рашэнняў па ліквідацыі запазычанасці перад Расійскай Федэрацыяй за атрыманыя энерганосьбіты;

4.2. Мінэканомікі, Мінзнешэканамсувязяў, Мінфіну, Міністэрству прадпрымальніцтва і інвестыцый сумесна з іншымі рэспубліканскімі органамі дзяржаўнага кіравання ўрэгуляваць праблемныя пытанні цэнаўтварэння, якія ёсць у таваравытворцаў, маючы на ўвазе прыняцце ў гэтай галіне мераў, якія забяспечвалі б рэнтабельную іх работу, аптымізацыю ўмоў дэкларавання цэн на пэўныя віды тавараў, што не з'яўляюцца сацыяльна значнымі;

4.3. Мінфіну, Мінзнешэканамсувязяў, Мінэканомікі прадугледзець у праекце рэспубліканскага бюджэту на 1999 год сродкі для ажыццяўлення паставак прадукцыі ў Расійскую Федэрацыю на ўмовах лізінгу.

Мінфіну, Мінэканомікі, Мінзнешэканамсувязяў сумесна з апаратам міністра па справах СНД, Мінпрамам, іншымі зацікаўленымі прапрацаваць з расійскім бокам пытанне аб выдзяленні з бюджэту Саюза Беларусі і Расіі сродкаў для забеспячэння ўзаемных паставак прадукцыі ў рэжыме лізінгу;

4.4. Мінфіну, Мінэканомікі сумесна з зацікаўленымі паскорыць пераход на рахунак-фактурны метад вылічэння ПДВ у знешнім гандлі і актывізаваць работу па пераходу ва ўзаемным гандлі з Расійскай Федэрацыяй на прынцып спагнання гэтага падатку па краіне назначэння:

4.5. Нацыянальнаму банку, міністэрствам, іншым органам дзяржаўнага кіравання, аб'яднанням, падпарадкаваным ураду, устанавіць пастаянны кантроль за праходжаннем праз банкі Расійскай Федэрацыі плацяжоў на карысць суб'ектаў гаспадарання Рэспублікі Беларусь.

5. Адзначыць, што Мінэканомікі, Мінфін, Мінзнешэканамсувязяў, Мінсельгасхарч, Мінпрам, прадпрыемства «Белтрансгаз», канцэрны «Белрэсурсы», «Белнафтахім», «Беллегпрам», «Белбіяфарм», «Беллеспаперапрам», «Белпалівагаз», «Белэнерга» недапушчальна марудна вырашаюць пытанні, звязаныя з адпрацоўкай у расійскіх дзяржаўных органах схемаў пастаўкі беларускай прадукцыі (з вызначэннем наменклатуры, аб'ёмаў і цэн) у лік пагашэння запазычанасці за прыродны газ, а таксама не прымаюцца належныя меры па выкананню пагаднення з Урадам Расійскай Федэрацыі ад 16 кастрычніка 1998 г. па гэтаму пытанню.

6. Прыняць да ведама, што Мінфінам сумесна з Нацыянальным банкам да 1 снежня 1998 г. будзе выпрацаваны механізм прадухілення страт суб'ектаў гаспадарання, выкліканых хістаннямі абменнага курса беларускага рубля.

7. Мінэканомікі, Мінзнешэканамсувязяў, Мінфіну, МЗС, Нацыянальнаму банку, галіновым міністэрствам, іншым рэспубліканскім органам дзяржаўнага кіравання, аб'яднанням, падпарадкаваным ураду, аблвыканкамам і Мінскаму гарвыканкаму неадкладна прыняць меры па выкананню дадзеных на 1998 год прагнозных паказчыкаў знешняга гандлю.

**Кіраўнік Рэспубліканскага штаба пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь**
**М. У. МЯСНІКОВІЧ.**

*25 лістапада 1998 г. г.Мінск.*

*АБАРОНА СПАЖЫВЕЦКАГА РЫНКУ*

# НА ШЛЯХУ «ХАРЧОВЫХ» КАНТРАБАНДЫСТАЎ УЗНІКЛІ ДАДАТКОВЫЯ МІЛІЦЭЙСКІЯ ПАСТЫ

***Асабовы састаў органаў унутраных спраў пераведзены на ўзмоцнены варыянт нясення службы***

**Даволі халоднае надвор'е, якое усталявалася апошнім часам у Беларусі, зусім не астудзіла камерцыйны запал нелегальных экспарцёраў. Незаконны вываз танных прадуктаў харчавання і прамысловых тавараў з нашай краіны ў Расію і ва Украіну працягваецца, што, безумоўна, ускладняе і без таго няпростую сітуацыю на спажывецкім рынку. Таму кіраўніцтвам органаў унутраных спраў прыняты шэраг дадатковых мераў па абароне спажывецкага рынку Беларусі.**

**Аб тым, якія захады робіць міліцыя, каб спыніць незаконны вываз за межы краіны сыравіны, тавараў штодзённага попыту і прадуктаў харчавання, карэспандэнт «Звязды» папрасіў расказаць начальніка службы Упраўлення па эканамічнай злачыннасці МУС Беларусі Уладзіміра ЯНКОЎСКАГА.**

**— Уладзімір Яўгенавіч, беларуская міліцыя і раней даволі актыўна вяла барацьбу з «харчовымі» кантрабандыстамі. Пад асабліва пільную ўвагу праваахоўных органаў нашы паўднёвыя і ўсходнія рубяжы трапілі ў верасні гэтага года, калі з'явіўся вядомы прэзідэнцкі дэкрэт, згодна з якім супраць нелегальных экспарцёраў былі прыняты дадатковыя, больш жорсткія меры пакарання. Якія захады вамі зроблены ці плануюцца зараз?**

— Сапраўды, мы ніколі не пакідалі па-за ўвагай праблему незаконнага вывазу прамысловых тавараў і прадуктаў харчавання. Хоць раней, у прыватнасці, да з'яўлення верасвёўскага дэкрэта прэзідэнта, процідзейнічаць нелегальным экспарцёрам было даволі складана з-за адсутнасці належнай прававой базы. Зараз у нас дастаткова паўнамоцтваў для эфектыўнай барацьбы з «харчовымі» кантрабандыстамі, ды і адпаведныя зацікаўленыя ведамствы прыслухаліся да нашых парад. У значнай меры нам удалося збіць імклівую хвалю незаконнага вывазу. Аднак эканамічныя рэаліі ў Беларусі і суседніх дзяржавах СНД, і ў першую чаргу вялікая розніца ў цэнах (у Беларусі, як вядома, яны адносна нізкія) па-ранейшаму спрыяюць дзейнасці нелегальных экспарцёраў. Таму апошнім часам, з улікам патрабаванняў прэзідэнта краіны, выказаных на нарадзе 11 лістапада, а таксама выконваючы рашэнні Рэспубліканскага штаба, кіраўніцтва МУС сканцэнтравала яшчэ больш пільную ўвагу на праблеме абароны спажывецкага рынку.

Распараджэннем кіраўніка МУС ў міністэрстве спецыяльна створаны сітуацыйна-аператыўны штаб. З 16 лістапада асабовы састаў органаў унутраных спраў пераведзены на ўзмоцнены варыянт нясення службы. На асноўных аўтатрасах і аб'язных дарогах, якія вядуць у Расію і ва Украіну, з'явіліся дадатковыя міліцэйскія заслоны супраць «харчовых» кантрабандыстаў. Зараз на межах з нашымі ўсходняй і паўднёвай дзяржавамі-суседкамі круглыя суткі функцыянуюць 519 міліцэйскіх пастоў, у тым ліку 225 — стацыянарных і 294 — перасовачных. Днём і ноччу на гэтых пастах нясуць службу каля 650 работнікаў Дзяржаўтаінспекцыі, прыкладна 200 байцоў АМОНа, а таксама амаль 4 тысячы супрацоўнікаў іншых міліцэйскіх падраздзяленняў.

**— І які ж вынік гэтай узмоцненай абароны спажывецкага рынку?**

— За перыяд з 1 па 25 лістапада органамі ўнутраных спраў сумесна з іншымі праваахоўнымі і кантралюючымі ведамствамі дагледжана 183 тысячы транспартных сродкаў, праведзена 6,5 тысячы аператыўна-прафілактычных мерапрыемстваў, затрымана тавараў на 66 мільярдаў рублёў, а таксама 225 аўтамабіляў. Выяўлена 797 фактаў незаконнага вывазу тавараў і прадуктаў харчавання, узбуджана 46 крымінальных спраў, складзена 2,8 тысячы адміністрацыйных пратаколаў. У даход дзяржавы канфіскавана тавараў на суму звыш 35 мільярдаў рублёў, а таксама 48 адзінак аўтатранспарту.

**— Якія тавары і прадукты харчавання апошнім часам найчасцей нелегальна вывозяцца з Беларусі? І хто звычайна займаецца іх незаконным вывазам?**

— Цяжка дакладна вызначыць асартымент тавараў, якія карыстаюцца найбольшай папулярнасцю ў нелегальных экспарцёраў. Кожны з кантрабандыстаў імкнецца вывезці тое, што можа як мага танней набыць у нашай краіне. Прычым, найбольшую небяспеку для спажывецкага рынку ўяўляюць зусім не «чаўнакі», а цэлыя фірмы, якія займаюцца незаконным вывазам тавараў. Напрыклад, у Лагойскім раёне мясцовымі міліцыянерамі нядаўна была затрымана грузавая аўтамашына «Мерседэс» адной мінскай фірмы, якая вывозіла ў Расію без адпаведнага дазволу 73 халадзільнікі. У Бярэзінскім раёне быў затрыманы аўтамабіль «КамАЗ», у кузаве якога знаходзіліся 64 тэлевізары «Гарызонт», што таксама без адпаведных дакументаў вывозіліся ў РФ. У Барысаве, пры спробе вывазу ў Расію пральнага парашку «Лотас» на суму 1,5 мільярда рублёў, быў затрыманы грузавік «МАЗ», які належыць аднаму сталічнаму прадпрыемству. Нярэдка нашым супрацоўнікам даводзіцца затрымліваць цэлыя партыі незаконна экспартуемых за межы краіны адзення, мэблі і іншых тавараў.

Што датычыць прадуктаў харчавання, то найчасцей харчовыя кантрабандысты вывозяць мяса, бульбу, а таксама малочныя прадукты.

Так, напрыклад, у Расонскім раёне нядаўна пры спробе незаконнага вывазу ў Расію амаль 13 тон сыру быў затрыманы вадзіцель аўтамабіля «КамАЗ». Сталічныя камерсанты аднаго з таварыстваў з абмежаванай адказнасцю спрабавалі незаконна вывезці за межы краіны больш за дзевяць з паловай тон свініны. І падобных прыкладаў можна прыводзіць вялікае мноства.

Прычым, як бачна, у пагоні за шалёным прыбыткам некаторыя камерсанты забываюць пра тое, што могуць страціць значна больш. Нагадаю, што беларускім заканадаўствам прадугледжана і крымінальная адказнасць за незаконны вываз, і даволі строгія штрафныя санкцыі, а таксама канфіскацыя не толькі кантрабанднага тавару, але і транспартнага сродку, на якім ён вывозіўся.

Так што, карыстаючыся выпадкам, хацеў бы параіць і асобным «чаўнакам», і цэлым фірмам, якія яшчэ не адмовіліся ад планаў нелегальнага экспарту, усё ж пашукаць сабе іншы, законны, спосаб зарабіць грошы.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 8.05 | 15.54 | 7.49 |
| Віцебск – | 8.06 | 15.37 | 7.36 |
| Магілёў – | 7.53 | 15.43 | 7.50 |
| Гомель – | 7.43 | 15.47 | 8.04 |
| Гродна – | 8.18 | 16.10 | 7.52 |
| Брэст – | 8.11 | 16.18 | 8.07 |

### МЕСЯЦ

***Поўня 3 снежня.***
***З 14.23 — 14-ыя месяцавыя суткі.***
***З 23.54 Месяц — у сузор'і Цяльца.***

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Платона, Рамана**
**К. Наталлі, Эдмунда**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў. Вецер усходні, слабы. Тэмпература паветра ў Магілёве — 16—18, Віцебску — 15—17, Гомелі — 14—16, Мінску — 13—15, Гродне, Брэсце — 9—11 градусаў марозу.

У наступныя двое сутак малавоблачна, без ападкаў. Вецер усходні, 4—9 м/сек. Тэмпература ўначы — 21—26, удзень — 13—18, па захадзе ўначы — 17—22, удзень — 10—15 градусаў ніжэй нуля.

***НЕСПРЫЯЛЬНЫЯ ДНІ Ў СНЕЖНІ***

2 — з 13 да 15
4 — з 14 да 16
9 — з 10 да 12
11 — з 10 да 12
19 — з 6 да 8
24 — з 9 да 11
26 — з 10 да 12
29 — з 11 да 13

**Паводле дадзеных доктара медыцынскіх навук В. ХАСНУЛІНА.**
*«Здоровье».*

# КІРМАШ

## ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

№ 47 (165)


### ПРАДАЕЦЦА ДОМ

■ Дом у в. Нарач, ёсць хлеў, гараж. *Тэл. у Мядзельскім раёне 4-66-23.*

■ Дом у Лагойскім раёне, участак 40 сотак. *Тэл. у Лагойску 5-43-66, пасля 17.00.*

■ Тэрмінова цагляны дом з усімі выгодамі ў Лепельскім раёне. Т*эл. у Вілейцы 5-22-90, да 17.*

■ Дом 6х15, 13 сотак пад дачу ў в. Колкі Клецкага раёна. *Тэл. 4-45-46.*

■ Дом цагляны з усімі выгодамі, гараж, г/пабудовы, участак 10 сотак у г. Быхаве або мяняю на кватэру ў Мінску. *Тэл. у Быхаве 2-15-04.*

■ Дом з г/пабудовамі ў г. Хойнікі, маецца гараж, сад, участак 30 сотак або мяняю на кватэру, магчымы варыянты. *Тэл. (8-01592) 3-63-92.*

Драўляны дом у цэнтры Слуцка, сад, 9 сотак. Т*эл. 4-56-25.*

■ Новы блочны дом 10х10, г/пабудовы, лазня, водаправод, участак 1 га ў Чашніцкім раёне. *Тэл.: (8-219) 4-76-51, 4-76-92, Люда.*

■ Палова жылога дома з гаражом, хлевам, водаправодам, прысядзібным участкам. *Звяртацца: 211480, г. Ушачы, зав. Е. Лось, 4.*

■ Дом, абкладзены цэглай, маецца гараж, хлеў, капцільня на станцыі Параф'янава (1000 у.а.), або мяняю на л/аўтамабіль. *Тэл. у Докшыцах 2-46-34.*

■ Дом у цэнтры г. Слоніма, з усімі выгодамі або мяняю на дом ці кватэру ў Нясвіжы. *Тэл. у Нясвіжы 5-31-53, 5-54-31.*

### ПРАДАЕЦЦА АЎТАМАБІЛЬ

■ «ГАЗ-53Б» у добрым стане — 750 у.а. *Звяртацца: 222626, Нясвіжскі раён, в. Слаўкава, вул. Школьная, 29.*

■ «Аудзі-100» 1979 г.в., 1,6 л, растаможаны — 700 у.а. *Тэл. у Нясвіжы 5-38-39.*

■ «VW-Пасат», турба-дызель, 1987 г.в. *Тэл. (8-02156) 2-48-84, увечары.*

■ «ВАЗ-2105» 1981 г.в. — 1300 у.а., торг. *Тэл. у Докшыцкім раёне 2-40-64.*

■ «Масквіч-2140» 1988 г.в. у выдатным стане — 1000 у.а. *Тэл. у Смаргоні 3-62-70.*

■ «Масквіч-2140» 1985 г.в., капрамонт 1997 г. Цана па дамоўленасці. *Тэл. у Клецкім раёне 4-45-46.*

■ Мікрааўтобус «Баркас-В1000» 1989 г.в. у добрым стане — 1350 у.а. *Тэл. у Беразіно 5-53-69.*

■ «Форд-Сіера» 1984 г.в. у добрым стане. *Тэл. у Вілейцы 5-34-36, пасля 18.00.*

■ «Нісан-Блюберд» 1987 г.в., дызель, 2 л, 5 КПП, «мокры асфальт», у выдатным стане. *Тэл. у Нясвіжы 5-46-45, да 16.00, Буко.*

■ «Аудзі-90» 1985 г.в. у добрым стане, бензін, 2 л, люк, цэнтр, замок у Валожыне. *Тэл. 5-52-85.*

■ Матацыкл «ІЖ-3к» з каляскай і новым 1-цыліндравым рухавіком — 120 у.а. *Тэл. (8-01592) 3-63-92.*

■ «МАЗ» з прычэпам, магчыма паасобку. *Тэл. (017) 241-19-42.*

■ «ЗІЛ-554М» 1990 г.в., самазвал, бензін, рухавік-8, «МАЗД-626», бензін, 1986 г.в., цана па дамоўленасці. *Тэл. у Лепельскім раёне 2-41-74.*

■ «Масквіч М-2140» 1987 г.в., газ-бензін, адзін гаспадар. Нядорага. Т*эл. (017)259-02-66.*

■ «ВАЗ-21063» 1987 г.в. у добрым стане — 2000 у.а. *Тэл. (8-01597) 2-54-55.*

■ «ГАЗ-21» («Волга») 1969 г.в., у добрым стане, цана па дамоўленасці. Т*эл. у Смаргоні 3-30-05.*

■ «Таўрыя» 1995 г.в.; рухавік «ГАЗ-24» б/к. *Тэл. у Нясвіжскім раёне 5-41-84 пасля 19.*

### ПРАДАЕЦЦА РОЗНАЕ

■ Усе з/ч да «Масквіча-2140» у выдатным стане. *Тэл. у Карэліцкім раёне 2-85-73.*

■ Шыны «Бі-391», «НІІШП-Ралі». *Тэл. у Бабруйску 3-73-93.*

■ Трактар «МТЗ-50», прычэп «2ПТС-4». Т*эл. у Навагрудку 2-24-15.*

■ Газавая калонка, новая. *Тэл. у Нясвіжы 5-38-39.*

■ «МТЗ-80» з прычэпам і плугам; «Т-25» — усё ў добрым стане. *Тэл. у Глыбокім 2-48-84.*

■ Рухавік дызельны, 24 к.с. — 380 у.а. *Тэл. у Докшыцкім раёне 2-40-64.*

■ Сухі корань жэньшэню. *Тэл. у Смаргонскім раёне 7-32-06.*

■ Лес абпілаваны на 14 см на зруб 7х9, дошкі неабрэзныя 25 мм (нядорага). Т*эл. у Клецкім раёне 4-37-08.*

■ Натуральнае масла: какавы, чайнага дрэва, жажоба, сквеленавае. *Тэл. 253-92-26.*

■ Бульба і л/а «ЗАЗ» на з/ч. *Тэл. у Чэрвеньскім раёне 4-52-24.*

■ Матаролер «Муравей» (грузавы); сучка пароды такса. *Тэл. у Жлобіне 9-64-55.*

■ Трактар «Т-16». *Тэл. ва Ушацкім раёне 2-61-48.*

■ Трактар «Т-25».

■ Зруб 5х7 у «чысты вугал» у в. Белае Ушацкага раёна. *Тэл. 2-61-48.*

■ Тэлевізар ч/б «Электрон-2» — 25 у.а. *Тэл. 243-21-33*

■ Жарэбчык (6 месяцаў) цяжкавознай пароды. *Тэл. у Валожынскім раёне 3-54-28 (сусед).*

■ Паліто зімовае 46—48 памеру са штучным каўняром, новае, танна. *Тэл. 243-21-33.*

■ Плуг 3-корпусны. *Тэл. у Глыбокім (8-256) 2-31-97.*

■ З/часткі да «М-2140» танна; выробленыя авечыя шкуры, чорныя. *Тэл. у Воранаве 9-37-35, пасля 19.*

■ Тэлевізар ч/б «Гарызонт» б/к; вёслы да гумавай лодкі — цана па дамоўленасці. *Тэл. у Мядзельскім раёне 4-85-64, да 16.00, Дзіма.*

■ Электражорны, электрапіла, рухавік да «МТЗ-50». *Тэл. у Ст. Дарогах 5-57-25.*

### РОЗНАЕ

Бяру спадарожнікаў за аўтамабілямі на нямецкую граніцу (да радні). *Тэл. у Валожыне 5-82-90, пасля 19.00.*

■ Мяняю дом у Слоніме на Нясвіж, маецца тэлефон, прыродны газ, гараж, прысядзібны ўчастак. *Тэл. у Нясвіжы 5-31-53, 5-54-31.*

■ Мяняю кватэру 2-пакаёвую ў г. Смаленску на Мінск. *Тэл. (017) 232-56-39.*

■ Мяняю кватэру 2-пакаёвую ў Полацку на Мінск, прыгарад, або прадам. *Тэл. (01713) 7-33-45 (Пухавічы).*

■ Ксеракопія, 2 тыс. руб., мін. 300 копій. *Тэл. 253-92-26.*

■ Мяняю 2-пакаёвую прыватызаваную кватэру ў г. Салігорску на 2-пакаёвую ў г. Жодзіна, або прадам. *Тэл. у Салігорску 2-55-31 — раб., 2-36-86 — хатні.*

■ Рамонт любой імпартнай электронікі. *Тэл. (017) 228-68-82.*

■ Здам у арэнду цагляны гараж з ямай і святлом, маецца тэхнічны пашпарт, або прадам. *Тэл. у Слуцку 4-39-24.*

■ Мяняю «Т-150» на «МТЗ» (можна сапсаваны), або куплю да 1000 у.а. *Тэл. у Маладзечне 5-13-55.*

### КУПЛЮ

■ Тэрмінова жыллё ў Гродне ці Лідзе (да 6 тыс. у.а.). у дадатак — «ВАЗ». *Тэл. (8-017) 502-78-90.*

■ Энцыклапедычны зборнік «Народы Амерыкі», том першы. *Тэл. у Нясвіжы 5-45-93.*

■ Цагляны дом (танна) у Лагойскім ці Дзяржынскім раёнах. *Тэл. у Мінску 266-98-91.*

■ Трактар «Т-25» у любым стане з навяснымі агрэгатамі. *Тэл. у Глыбокім 2-48-84, 2-12-65.*

З снежня ў рамках акцыі «Моладзь супраць СНІДу» ў мінскім Палацы спорту выступіць група «Руки вверх». Пачатак у 19.00.

ПРОДАЕМ

**КРУПОРУШКИ**

**для производства крупы**

**перловой, ячневой и гороха.**

***Производительность до 250 кг/час.***
***Срок окупаемости — 25 рабочих смен.***

**Предпродажное тестирование на действующем производстве**

**(017) 502-64-40, 502-64-44, 502-62-69, факс 502-64-64.**

**ВОЗМОЖЕН БАРТЕР НА ЯЧМЕНЬ**

## Асабістае жыццё

**Аб. 928.** Шукаю спадарожніка жыцця з Гродна ці Ліды. Мне 38, рост 168, прывабнай знешнасці, адукацыя вышэйшая. Жыццё не склалася, зараз адзінота, сум... Ты мая апошняя надзея, я зраблю цябе шчаслівым. Таццяна.

**Аб. 929.** Пазнаёмлюся з мужчынам 55 гадоў для стварэння сям'і на падставе ўзаемнай павагі. Аб сабе: жыву ў Бабруйску, мне 54 гады, рост 170.

**Аб. 930.** Пазнаёмлюся з жанчынай не схільнай да паўнаты. Аб сабе: 48 гадоў, рост 160, без ш/звычак. Пісаць: 231614, п/а Курылавічы Мастоўскага раёна, Каранчуку В. М.

**Аб. 931.** Пазнаёмлюся з мужчынам да 50 гадоў. Аб сабе: 43 гады, жыллём забяспечана, дзеці дарослыя, г. Смаргонь.

**Аб. 932.** Сімпатычная, інтэлігентная жанчына, 42/157/55, маю жыллё, пазнаёмлюся з мужчынам, які не злоўжывае алкаголем. Адукацыя сярэднетэхнічная (Гомельская вобл.).

**Аб. 933.** Пазнаёмлюся з жанчынай адпаведнага ўзросту (магчыма інвалідам II групы) для стварэння сям'і. Пажадана фота. Аб сабе: Скарпіён, 27/176/75, згодзен на пераезд.

**Аб. 934.** Прыгожая высокая жанчына, 32/180/100, пазнаёміцца з сур'ёзным мужчынам для стварэння сям'і, маю сына 6 гадоў (Мінская вобл.).

**Аб. 935.** Мікалай, 33 гады, высокі, без ш/звычак, жыву ў сельскай мясцовасці, пазнаёмлюся з добрай дзяўчынай 23–30 гадоў для стварэння сям'і (Гомельская вобл.).

**Аб. 936.** Пазнаёмлюся з сімпатычнай жанчынай (можна з дзіцем), забяспечанай жыллём, для сумеснага жыцця ва ўзросце 21–35 гадоў, пажадана з Гомеля ці Гомельскай воб. Аб сабе: Анатолій, 28/164, разведзены, маю палову дома ў вёсцы, згодзен на пераезд.

**Государственное предприятие «БЕЛОРУССКИЙ МЕЖБАНКОВСКИЙ РАСЧЕТНЫЙ ЦЕНТР»**

**приглашает принять участие в тендере на поставку оборудования и программных средств для создания системы автоматизированного документооборота и межбанковской электронной почты. Валюта платежа по договору — белорусские рубли.**

**Пакет тендерных документов можно получить по адресу: *г. Минск, ул. Кальварийская, 7, комн. 605.***

**Просим доставить ответ, оформленный в виде коммерческого предложения, информации о фирмах-производителях и проект договора в запечатанном виде Вашим курьером в срок до 17 декабря 1998 г. по вышеуказанному адресу.**

**Предложения и дополнительные материалы, поступившие после указанного срока, к рассмотрению не принимаются.**

**Коммерческое предложение должно содержать:**

**1. Предложения по поставке оборудования и программных средств, требующихся для создания системы.**

**2. Проект договора.**

**3. Предложения по установке и запуску оборудования.**

**Наличие соответствующих лицензий и сертификатов обязательно.**

***Справки можно получить по телефонам: 223-91-66; 223-99-66.***

**ГП трест «БЕЛТОРГСТРОЙ»**

**на конкурсной основе производит продажу части административно-вспомогательного корпуса**

**по адресу:** ***г. Минск, ул. Стебенева, 5***

Общая площадь 462 кв. м.

Начальная цена 3 500 млн. руб.

Конкурс состоится 30 декабря 1998 г. в 15.00 по адресу:

*Минск, ул. В. Хоружей, 31, комн. 107*

Заявления с комплектом документов принимаются по вышеуказанному адресу до **29 декабря** с. г. включительно, кроме выходных, с 9.00 до 17.00.

Справки по телефону (017) 234-56-23.

**Продаем:**

■ Москвич ИЖ-2715, 1998 г.в.

■ Прицеп для ЗИЛа, КАМАЗ, опрокидывание на 3 стороны.

**Купим:**

■ Дизтопливо, А-76.

***Тел.: (017) 274-86-44; 230-34-87; 277-27-53.***

*ВІНШАВАННІ*

*Шчыра віншуем з 70-годдзем дарагую* **Ганну Трафімаўну ЯРОХА.** *Жадаем здароўя, дабрабыту і доўгіх гадоў жыцця.*

**Дзеці, унукі,** г. Віцебск.

*Віншуем з днём нараджэння* ***Грышу, Рэгіну, Дзіму і Сашу БАЛАШОВЫХ*** *з г. Мінска. Жадаем моцнага здароўя, шчасця ў вашай сям'і.*

**Сям'я Паплёўкі,** г. Жодзіна.

*Сардэчна віншуем сына* ***Віктара НОВІКА*** *з в. Ляшчанка Шчучынскага раёна з 30-годдзем. Жадаем здароўя, шчасця, дабрабыту і даўгалецця.*

**Бацькі,** в. Красная.

**ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**

**Просім аб'явы ў газету «Звязда» дасылаць на беларускай мове. Гэта забяспечыць дакладнасць і хуткасць іх публікацыі.**

**Калектыў Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь выказвае глыбокае спачуванне старшаму інспектару Вярхоўнага суда Мяркулавай Валянціне Іванаўне ў сувязі з напаткаўшым яе вялікім горам — смерцю БАЦЬКІ.**

ПРЕДПРИЯТИЕ ЗАКУПАЕТ

**СЕМЕНА РАПСА**

**пищевого 1-го класса**

**ПРЕДОПЛАТА.**

**Тел./факс (017) 226-37-89**
**тел. (017) 226-37-88.**

• Згубленую пячатку і вуглавы штамп гаражнага кааператыва «Луч-1» **лічыць несапраўднымі.**

• **Куплю** квартиру, комнату в Минске. *Тел. (017) 220-06-40.*

***ПОКУПАЕМ***

*ЯЧМЕНЬ, ГОРОХ продовольственный*

**Тел.: (017) 502-62-69, 502-64-40, 502-64-44, факс 502-64-64**

**ЗВЯЗДА**

**Купон для бясплатнай прыватнай аб'явы**

**Запоўніце разборліва, выражце і вышліце на адрас рэдакцыі 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 А.**

**АБАВЯЗКОВЫЯ звесткі не для друку: ваша прозвішча, адрас, хатні тэлефон.**

**Тэлефон для даведак 232-31-98.**

*Увага! Неразборліва запоўненыя купоны не разглядаюцца і не вяртаюцца.*
*Пры віншаванні ўказвайце прозвішча, імя, імя па бацьку таго, каго трэба павіншаваць.*

***Абутковы рынак Беларусі сёння, бадай, адзін з самых багатых па асартыменту ў параўнанні нават з прамысловымі таварамі ці прадуктамі харчавання. Пры гэтым колькасць імпартуемых ботаў, чаравікаў і сандалетаў ці то па дзяржаўнай лініі, ці з дапамогай «чаўнакоў» наўрад ці перавышае палову ад агульнай колькасці гэтага тавару. Большая частка ўсё ж прыпадае на долю родных вытворцаў, прадукцыя якіх апошнім часам практычна не ўступае лепшым замежным аналагам. Сярод айчынных абутковых майстроў высока каціруецца таварыства з абмежаванай адказнасцю «Прадпрыемства «Марко», ужо пяты год «прапісанае» ў Віцебску. З канвеера фірмы штодзень сыходзіць модны і стыльны абутак, які падабаецца не толькі дарослым, але і дзецям.***

***Сёння наш суразмоўца — прэзідэнт абутковага прадпрыемства «Марко» Мікалай Мартынаў, які, дарэчы, у свой час быў яе заснавальнікам.***

## Таварыства з абмежаванай адказнасцю. «Прадпрыемства «Марко»:

# АБУТАК НА ЎСЕ ЧАСЫ, МОДНЫ СТЫЛЬ І КАМФОРТ

## *Мікалай МАРТЫНАЎ, прэзідэнт ТАА «Прадпрыемства «Марко»*

# *«Як мінімум, наша фірма гарантуе вам добры настрой»*



**— МІКАЛАЙ ВАСІЛЬЕВІЧ, на думку многіх, сённяшні поспех у рабоце вашага прадпрыемства — гэта не толькі самаадданасць і прафесіяналізм супрацоўнікаў фірмы, але і тое, што яе назва «Марко» сугучная з італьянскім абуткам «Марко Пола».**

— Ведаеце, пры такой фантазіі можна далёка зайсці і «раскапаць» яшчэ некалькі «сугучных» фабрык. Магчыма, і ёсць нешта станоўчае ў падабенстве назваў. Але галоўнае ўсё ж такі ў іншым. Ды і калі фірма стваралася, а гэта было ў канцы 1990 года, неяк аб тым, каб быць «двайніком» нейкага замежнага сіндыката, не задумваўся.

**— Проста «Мартынаў і ...»**

— ...і тэхнічны дырэктар Кавалькоў. Наогул спярша фірма наша складалася з некалькіх чалавек. Пачыналі зарабляць капітал на некаторых гандлёва-прадпрымальніцкіх аперацыях. Да таго ж мелі невялікі ўчастак па шыццю адзення. І толькі апошнія гады чатыры прадпрыемствы «Марко» перайшлі ў асноўным на вытворчасць абутку. За кошт прыбыткаў змаглі адбудаваць сабе выдатныя рабочыя карпусы, атрымаўшы ў дзяржавы ў бестэрміновую арэнду зямлю. Так атрымалася, што яна ў нас не пуставала.

**— Калі вы атрымлівалі статус абутніка, вас не палохаў той факт, што Віцебск зараз — гэта своеасаблівая абутковая мекка, дзе нямала прадпрыемстваў-канкурэнтаў — «Чырвоны кастрычнік», «Белвест»...**

— Ну і што з гэтага? Дарэчы, да таго, як стаў самастойна зарабляць на хлеб і даваць гэта зрабіць іншым, я год адпрацаваў на «Белвесце» і, мяркую, добра ведаў усю «кухню», звязаную са стварэннем новага прадпрыемства. Хоць, чаго граху таіць, — цяжкавата было асвойваць азы прадпрымальніцтва. Не аднойчы і гузакі набіваў. Але ж час расставіў усё на свае месцы. І сённяшняе таварыства з абмежаванай адказнасцю «Марко» — гэта ўжо сплаў дзелавых ідэй, разумнай думкі, творчых фантазій. Прабачце за такое лірычнае адступленне, бо праблем хапала і тады, а цяпер іх менш не стала, нягледзячы на нажыты капітал.

**— Дарэчы, стабільнасць вашага прадпрыемства, асабліва сёння, у немалой ступені залежыць мабыць ад нямецкіх партнёраў фірмы «EWIMEX».**

— Сапраўды, гэта так. Германскі бок у свой час выступіў сузаснавальнікам «Марко» і зараз аказвае нам садзейнічанне ў рабоце. Напрыклад, заходнія калегі прадастаўляюць нам таварныя крэдыты. Праўда, разлічвацца за іх, у сувязі з апошнімі крызіснымі падзеямі ў Расіі і Беларусі, становіцца ўсё цяжэй, бо канверсаваць нашы «зайчыкі» ў СКВ практычна немагчыма, а расійскі рынак, як вы ведаеце, не перастае трэсці. Але ж мы трымаемся не толькі на крэдыце даверу «EWIMEX», але і дзякуючы валютнаму крэдыту Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця. Дарэчы, яго таксама трэба вяртаць у «цвёрдай валюце». А дзе яе ўзяць — гэта ўжо праблема.

**— Мікалай Васільевіч, падзеі жніўня ў Расіі зараз усе вытворцы згодны лічыць асноўнай прычынай спаду на сваіх прадпрыемствах.**

— Думаю, не трэба быць вялікім палітыкам, каб разабрацца ва ўсіх гэтых эканамічна-палітычных драмах. Пагадзіцеся, што сёння ні ў Беларусі, ні ў Расіі, ды і на прасторах былога Саюза няма прадпрыемства, якое б прама ці ўскосна не закрануў крызіс. Менавіта наша фабрыка апошнія некалькі гадоў была вельмі цесна «завязана» на рынак братняй рэспублікі. Усё ішло, як кажуць, добра. І раптам як абухом па галаве. Таму, хоць агульныя аб'ёмы вытворчасці абутку мы захавалі, колькасць пастаўляемага ў Расію тавару значна скарацілася. Хоць гэтае змяншэнне паставак не ў нашых інтарэсах, бо, як бы там ні было, а расійскі рубель можна без вялікіх цяжкасцяў канверсаваць у любую валюту. Так што па магчымасці будзем старацца выйсці, як мінімум, на «старыя» паказчыкі.

**— Што сёння ўяўляе сабой ТАА «Прадпрыемства Марко» ў лічбах?**

— Калі ласка. Штомесяц з канвеера сыходзіць звыш 100 тысяч высакаякаснага мужчынскага, жаночага і дзіцячага абутку. Дарэчы, жаночы асартымент не такі ўжо багаты, бо яго мы пачалі асвойваць не так даўно.

Зараз кожны месяц асвойваецца 5-6 новых мадэляў. І працэс абнаўлення праходзіць рэгулярна, за што, безумоўна, трэба сказаць вялікі дзякуй нашым мадэльерам. Яшчэ пахвалюся некаторымі лічбамі. З больш чым 1100 працуючых у сістэме «Марко» амаль тры дзесяткі — інваліды самых розных груп. Гэтыя людзі працуюць на пашыве жаночых скураных сумачак. І, паверце, не проста «адбываюць нумар» ці лічацца ў штаце, а робяць даволі высакаякасны і прывабны тавар, прычым даволі танны ў параўнанні з італьянскімі ці нямецкімі ўзорамі.

**— Мікалай Васільевіч, геаграфія паставак абутку ад «Марко» абмяжоўваецца толькі беларуска-расійскім рынкам?**

— У асноўным так. Пастаянная доля Расіі была 40 працэнтаў ад агульнай колькасці выпускаемай прадукцыі. Ільвіная доля застаецца на айчынных прасторах. Крыху спрабавалі гандляваць з краінамі Прыбалтыкі, Украінай.

**— Такі накірунак у рабоце, як фірменны гандаль, вам знаёмы?**

— Вядома, прычым вельмі добра. Свае фірменныя гандлёвыя кропкі мы маем як у Беларусі, так і ў Расіі. Усяго пакуль каля дзесятка такіх магазінаў. Не варта многа гаварыць пра іх ролю ў жыцці прадпрыемства. Акрамя штодзённай «жывой» выручкі гэта яшчэ і стыль работы ўсяго прадпрыемства «Марко», яго твар. А яго, паверце, вельмі важна мець чыстым перад сваімі пакупнікамі, каб яны не адварочваліся.

**— Патэнцыяльны пакупнік можа прайсці міма тавару, калі на ім цэннік «куслівы».**

— Безумоўна, таму цэнавая палітыка — гэта вельмі важны элемент нашай работы, асабліва цяпер, калі пакупная здольнасць народа ў сувязі з крызіснымі з'явамі ў эканоміцы рэзка зменшылася. Мы стараемся прадаваць тавар, вядома, не на страту сабе, але з вельмі невялікай гандлёвай надбаўкай. Гэта ў большай ступені дотычыцца фірменных магазінаў.

**— Як уплывае на агульную жыццядзейнасць фірмы прысутнасць шматлікіх суседзяў-вытворцаў, якія таксама гатовы не «спаць у шапку», а прыцягваць на свой бок пакупнікоў.**

— Пра канкурэнцыю можна гаварыць бясконца, бо кожная выпушчаная на нейкім прадпрыемстве пара абутку — гэта ўжо канкурэнцыя. Але ж гэта нармальная з'ява, стымул для больш дасканалага фарміравання цаны, пошукаў новых мадэляў і распрацовак. Як гаворыцца, на тое і шчупак у моры, каб карась не драмаў. Глядзіш на калег, якія развіваюцца, і адразу з'яўляецца жаданне не адставаць, таму што як толькі спыніўся на імгненне, адстаў у нечым — і адразу ж адчуваеш, што цябе зацягнула ў нейкае балота. І хуценька імкнешся нагнаць упушчанае.

**— Мікалай Васільевіч, самым лепшым доказам таго, што гаспадар варушыцца, а не сядзіць склаўшы рукі ля канвеера, з'яўляецца выпуск нечага новенькага, арыгінальнага, аб чым нават і меркаваць не могуць у стане «ворагаў».**

— Здзіўляць, вядома, заўсёды прыемна. Тымі ж новымі мадэлямі. Праўда, хутка «Марко» павінна паўстаць перад сваімі пакупнікамі ў зусім новым святле. Праз нейкі час на паток, магчыма, будзе запушчаны высакаякасны і модны спартыўны абутак.

**— Адкуль, калі не сакрэт, прыйшла думка пачаць абуваць народ у кеды і красоўкі?**

— Калі шчыра, то пры наведванні ў сярэдзіне гэтага года нашага прадпрыемства прэзідэнтам краіны Аляксандрам Лукашэнкам ён выказаў пажаданне, каб наша фірма з'явілася пачынальнікам новай справы: распрацавала і арганізавала серыйны выпуск добрага спартыўнага абутку. Першыя яго ўзоры ў нас ужо ёсць. Астатняе — справа часу.

**— Поспех фірмы ў многім залежыць ад камплектуючых. Хто вашы пастаўшчыкі?**

— Скураную сыравіну нам пастаўляе Бабруйскі гарбарны камбінат, Смілавічы, Гатава. Не буду крывіць душой, але яна магла б быць больш якаснай, бо ад яе залежыць 50 працэнтаў поспеху пры рэалізацыі.

Вусцілку для абутку нам вырабляе ўжо магілёўскае прадпрыемства «Хімвалакно»; і дзякуй ім за гэта, бо цяпер для атрымання ўказанай абутковай дэталі не трэба траціць валюту. А яна ідзе пакуль на закупку розных хімікатаў, футра для пашыву зімовага абутку, хоць у нас ёсць свой футравы камбінат. Але да гэтага часу ён не ўзяў ініцыятыву, каб наладзіць цеснае супрацоўніцтва з «Марко». Тады нам не прыйшлося б за валюту купляць футравыя «запчасткі» ў Італіі ці Германіі.

**— Мікалай Васільевіч, можна спадзявацца, што ў хуткім часе ваша пажаданне стане рэальнасцю. Тым больш, што наперадзе новы год.**

— Так, снежань — гэта месяц клопатаў наконт таго, як сустракаць Каляды, праводзіць навагоднія святы, але найперш гэта прыемныя пошукі падарункаў.

**— Вашы пажаданні ў навагоднім ракурсе?**

— Не буду арыгінальнічаць, а скажу як спецыяліст абутковай галіны. Акрамя традыцыйных віншаванняў хацелася б пажадаць, каб калі не ўсе, то большасць людзей змаглі набыць абутак з фірменным значком «Марко» і сустрэлі Новы год у абноўцы і цяпле. Думаю, што аб пакупцы яны не пашкадуюць, бо фірма гарантуе разам з якасцю і камфортам яшчэ і добры настрой.

**Матэрыялы старонкі падрыхтаваў Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**
**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**



***На ўчастку аддзелкі — упакоўшчыца Юлія УРУБЛЕЎСКАЯ і намеснік дырэктара Людміла УРУБЛЕЎСКАЯ.***



***На падрыхтоўчым участку.***





# КРАСА І СІЛА



АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПАЭЗІІ

## «Я ПАВІННА АХОЎВАЦЬ КАРЭННІ ДРЭВА СВАЙГО»

Люблю Жэню Янішчыц і, як мне здаецца, у нас любоў была ўзаемнай з першай нашай сустрэчы. Прысвяціў ёй два вершы, адзін з іх пакуль нідзе не надрукаваны. Пасля выхаду маёй першай кніжкі, якую яна рэдагавала разам з Анатолем Грачанікавым, за тыдзень да яе трагічнай смерці ці не дзве гадзіны з ёю размаўлялі. Якая яна была шчаслівая, як свяцілася, як прыгожа распавядала пра сына, пра новую кватэру над Свіслаччу, пра задумы ў паэзіі, пра мары на наступнае жыццё.

Жэня, Жэнечка Янішчыц... Самая шчымлівая, трапяткая наша паэтка.Тады, пры апошняй нашай сустрэчы, падарыла мне выбранае са сваёй паэзіі за 20 гадоў. Можна было б амаль кожны пяты яе верш даваць у «Анталогію», а мне лёг на душу самы ранні — «Ля ложка хворай маці». Сёння ўначы зноў плакаў над ім і нават не таму, што ў мяне таксама маці, як зязюля, хворая-хворая, сядзіць адна ў хаце. Калі «дзіцяці Палесся» задалі пытанне: «Самае моцнае ўражанне жыцця, якое пакінула след у Вашай паэзіі?», дык Жэня адказала так, як, мабыць, думае кожны з нас: «Жыццё маёй маці. Я заўсёды здзіўляюся яе ашаламляльнай энергіі ў зграбнай, прыгожай ды спрацаванай постаці... Яе лёс мог бы скласціся зусім іначай, каб не было вайны. Сем класаў польскай школы, скончаных на «выдатна»! Адукаваны і любімы муж, якога фашысты расстралялі ў 44-м годзе за сувязь з партызанамі. Цудам ацалелая, з грудным дзіцем на руках. Нечаканая смерць затраўленага бацькі — майго дзеда. Бескарыслівае служэнне сваім малодшым сёстрам: вывучыліся, дзякуй. Усё жыццё — праца, карпатлівая і чэсная праца...»

Жэні ўжо няма, а маці Марыя Андрэеўна жывая, сын расце. Дай Бог ім здароўя. Паназывалі яе імем вуліцы і ў Пінску, і ў вёсцы, стварылі сябры музеі, а Жэні ўсё адно няма. Толькі памяць, толькі вершы. Добрая памяць, душэўныя, зямныя вершы, хоць сама заўсёды лунала ў нябёсах.

P.S. 20 лістапада Яўгеніі Янішчыц споўнілася б 50 гадоў. 4 снежня а 16-й гадзіне ў музеі Янкі Купалы адбудзецца вечарына памяці нацыянальнай паэткі. Усіх, хто яе памятае і любіць яе творчасць, запрашаем на вечарыну.

### Ля ложка хворай маці

*Ты ляжыш не на ложку,*
*а ў жытневым полі.*
*Мама!*
*Так мне рукі тваё*
*е не балелі ніколі.*
*То пасланы ў пакоі не ходнікі —*
*саматканыя сцежкі-дарогі.*
*Мама!*
*Так ніколі твае не балелі мне ногі.*
*Я прыйшла, як заўжды, цішынёю*
*тваёю сагрэцца.*
*Мама!*
*Так ніколі тваё не шчымела*
*мне сэрца.*
*І ружовіцца дзень.*
*І жыты ўжо чакаюць за хатай,*
*А табой за паўвека так многа*
*жытоў пержата!..*
*Ты на ложку ляжыш,*
*А здаецца,*
*што ў сонечным полі.*
*Мама!*
*Так ніколі твая не балела*
*мне доля.*
*Ты на ложку ляжыш.*
*І прыціхла за хатай дуброва.*
*Мама!*
*Так ніколі, як сёння,*
*Тваё*
*Не балела мне слова.*

**Падрыхтаваў Анатоль СЫС.**



## КРЫЖАВАНКА

**Па гарызанталях**: 5. Паэтычны псеўданім Гертруды Маркавай — аўтара зборнікаў «Вочы восені», «Пралеска», «Альфа» і інш. 6. Плоская глiністая паверхня амаль без расліннасці ў зоне пустынь і паўпустынь. 8. Горад на Магілёўшчыне, чыгуначны вузел. 9. Маток пражы, нітак (стар.). 11. Вялікая водная прастора, умоўна адасобленая частка акіяна. 13. Гара ў Грэцыі. 15. Першапачатковая назва лакаматыва, які цяпер называюць паравозам. 16. Старажытная ручная баявая зброя для кідання камянёў. 18. Сплаў медзі з волавам. 19. Квадра Месяца. 21. Адзінка даўжыні, адна дванаццатая частка фута. 22. Лесвіца на караблі. 23. Традыцыйны паркавы атракцыён. 24. Парны знак прыпынку. 25. Невялікая лугавая птушка з імклівым бегам. 29. Падобная на вавёрку невялікая жывёла, якая ўпадае ў доўгую зімовую спячку. 31. Нераствральнае ў вадзе масляністае рэчыва, якое змяшчаецца ў жывёльных і раслінных тканках. 32. Занадта худы, змарнелы чалавек (разм.). 33. Планета Сонечнай сістэмы. 34. Неглыбокае месца ў вадаёме. 36. Метрычная музычная адзінка. 38. Купалападобнае зімовае жыллё са снегу ў канадскіх эскімосаў. 39. Гарадскі пасёлак на Міншчыне. 41. Адзін з буйнейшых гарадоў у ЗША. 42. Рака ў Грузіі. 43. Плямісты, або звычайны, цюлень, які жыве ў паўночнай частцы Ціхага акіяна.

**Па вертыкалях:** 1. Несамаходны аўтатранспартны сродак. 2. Персанаж камедыі А. П. Чэхава «Вішнёвы сад». 3. Адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка з унутраным самакіраваннем у ЗША, Аўстраліі, некаторых іншых краінах. 4. Старажытнаскандынаўскі спявак-паэт. 5. У такелажнікаў, будаўнікоў і да т. п. сігнал для падымання грузу. 7. Пастаянны прыродны вадасцёк. 8. Куча каменя. 10. Няўдача, знеслаўленне (стар.). 11. Знак паштовай аплаты. 12. Доўгія вузкія сані для язды на сабаках, аленях. 14. Змешчаныя разам некалькі вершаў аднаго аўтара. 17. Расліна, тое, што і шчырыца. 18. Шырока вядомы раён г. Нью-Йорка. 19. Вельмі дужы чалавек, асілак. 20. Насякомае з падсямейства, да якога належыць майскі жук. 26. Вымаганне буйной сумы грошай, матэрыяльных каштоўнасцяў з дапамогай пагроз, прымянення сілы. 27. Савецкі кампазітар, аўтар балетаў «Уяўны жаніх», «Юнацтва». 28. Дванаццаць штук аднародных прадметаў. 29. Баярскі, а потым княскі род у Вялікім Княстве Літоўскім і Рэчы Паспалітай у XVI—XX ст. ст. 30. Астраўная дзяржава на паўночным захадзе Ціхага акіяна. 34. Празрыстае пахкае рэчыва, якое атрымліваюць з эфірнага алею мяты. 35. Сталіца дзяржавы на захадзе Азіі. 37. Пярэдняя частка галавы чалавека. 38. Выкананне твору на музычным інструменце. 40. Метвыраб — масавы крапёжны рыштунак. 41. Чырвоны стручковы пякучы перац.

**Склаў Валянцін НАЛІМАЎ.**
г. Мінск.

# Post Factum

## Гэты дзень у гісторыі

● **1 снежня 1761 года** нарадзілася Марыя Цюсо, францужанка, якая стварыла славуты музей васковых фігур у Лондане.

● **1 снежня 1792 года** нарадзіўся Мікалай Іванавіч Лабачэўскі, вялікі рускі матэматык, стваральнік нееўклідавай геаметрыі.

● **1 снежня 1890 года** нарадзіўся Васіль Блюхер, адзін з першых пяці сталінскіх маршалаў, у далейшым — «вораг народа».

● **У гэты дзень у 1891 годзе** настаўнік фізкультуры Джэймс Нейсміт для заняткаў у памяшканнях зімой прыдумаў для сваіх выхаванцаў гульню. Прыбіўшы на процілеглых баках гімнастычнай залы карзіны, ён даў вучням футбольны мяч і растлумачыў, што яго трэба закідваць у гэтыя карзіны. Так нарадзіўся баскетбол.

● **1 снежня 1896 года** нарадзіўся Маршал Савецкага Саюза, міністр абароны СССР Георгій Канстанцінавіч Жукаў.

● **1 снежня 1913 года** на заводах Форда ўпершыню была ўведзена бесперапынная зборачная лінія: з канвеера кожныя 2 гадзіны 38 хвілін сыходзіў аўтамабіль.

● **У гэты дзень у 1922 годзе** нарадзіўся Усевалад Міхайлавіч Баброў, вялікі савецкі футбаліст і хакеіст, адзіны ў гісторыі сусветнага спорту чалавек, які выступаў на Алімпійскіх гульнях у якасці капітана футбольнай (1952 г.) і хакейнай (1956 г.) каманд.

● **У гэты дзень у 1989 годзе** адбылася экстраардынарная падзея — камуністычны лідэр Міхаіл Гарбачоў упершыню сустрэўся з папам Янам Паўлам II у Ватыкане.

## Дзесьці на белым свеце

***Джон Траволта прапанаваў Білу Клінтану тэрмінова ўступіць у царкву саенталогіі, бо, на яго думку, настаўленні яе заснавальніка Рона Хабарда — адзіная зброя супраць інтрыг Монікі Левінскі і тых, хто хоча выкінуць кіраўніка дзяржавы з прэзідэнцкага крэсла.***

Траволта накіраваў Клінтану бандэроль з літаратурай па саенталогіі, паабяцаў арганізаваць сустрэчу з кіраўніцтвам царквы і намякнуў, што ведае спосаб, як вызваліць прэзідэнта ад празмернай цягі да сексу з супрацоўніцамі. Клінтан пакуль нічога не адказаў свайму добразычліўцу, але ходзяць чуткі, што ў вольны ад работы час ён усё ж штудзіруе Хабарда.

## І так бывае

***Калі маленькі сын жыхаркі індыйскага горада Шандыгар зайшоў на кухню і паведаміў ёй, што ў гасцінай сядзіць тыгр, тая не надала словам малога ніякага значэння, вырашыўшы, што па тэлевізару дэманструюць які-небудзь дакументальны фільм пра дзікіх звяроў.***

Аднак па «скрыньцы» ішла чарговая «мыльная опера», якую з асалодай глядзеў самы сапраўдны леапард, забраўшыся ў дом праз акно. Зазірнуўшы ў пакой, жанчына жахнулася, схапіла сына, які як ні ў чым не бывала глядзеў кіно побач з вялікай кошкай, што скруцілася ў крэсле, і выбегла на вуліцу.

Леапард жа пасля прагляду тэлепраграм прытаміўся і захроп у гаспадарскім ложку. Ветэрынары, якія тэрмінова прыбылі на месца здарэння з Дэлійскага заапарка, зрабілі зверу снатворны ўкол і пасадзілі яго ў клетку, адкуль чатырохногі аматар тэлебачання, які належыць, дарэчы, да вельмі рэдкага віду, уцёк.

## Можа быць...

***Прафесар Канберскага універсітэта Сціў Фолінг сцвярджае, што калі Сонца поўнасцю выпрацуе сваё ядзернае паліва, яно ўзарвецца, што прывядзе да гібелі жыцця на Зямлі.***

Зараз ядро Сонца распалена да 15 мільёнаў градусаў і тэмпература пастаянна павышаецца. І калі яна дасягне прыблізна 100 мільёнаў, адбудзецца гіганцкі выбух. Загіне ўсё — моры, акіяны, атмасфера. Ад нашай блакітнай планеты ўцалее толькі яе ядро, якое складаецца з нікелю і жалеза. Сонца ж застанецца мёртвай планетай, так званым белым карлікам.

Падставай для такіх сцвярджэнняў паслужылі даследаванні, праведзеныя над планетай ДжыДзі 356, аддаленай ад Зямлі на 65 мільёнаў светлавых гадоў. Па сваёй будове яна як дзве кроплі вады падобная на Сонца. Праўда, вучоныя далі нам на жыццё яшчэ 4,5 мільярда гадоў. А можа, нас проста заспакойваюць і Сонца ўзарвецца значна раней?

## А яшчэ быў выпадак

***Два злодзеі на пенсіі вырашылі абчысціць кватэру. Забраўшыся ў апартаменты фешэнебельнага атэля ў Сіднеі (Аўстралія), 70-гадовыя прафесіяналы беспамылкова вызначылі, дзе што ляжыць, і бліскуча абчысцілі гаспадарскія скрынкі.***

Аднак уцячы ім усё ж не ўдалося, і ўпершыню за сваё працяглае «зладзейскае» жыццё напарнікі трапілі за краты. Падвёў іх узрост. Падслепаваты Том Грын, які арудаваў непасрэдна ў апартаментах, выпадкова націснуў на сігнальную кнопку на сцяне. А Сціў Драй, што стаяў на варце, не пачуў крокаў аховы — адпраўляючыся на справу, ён забыў дома слыхавы апарат.

## Кур'ёзы

***Калі прыгажун Эндру Батчэр трапіў на 6 гадоў у турму за махлярства, яго жонка Грэйсі ўладкавалася на працу медсястрой у бальніцу турмы Літлхей у Пітэрсборы, дзе адбываў тэрмін Эндру.***

Яна прыступіла да работы пад сваім дзявочым прозвішчам, так што ніхто не здагадваўся аб сапраўдных мэтах яе з'яўлення ў бальніцы. Грэйсі ўдалося паслаць вестку Эндру, і ён рэгулярна наведваўся да яе ў працэдурны кабінет быццам за ўрачэбнай дапамогай. Зразумелая справа, што ў час кароткіх спатканняў разлучаныя муж і жонка аддаваліся бурным ласкам.

Але неўзабаве ім стала не хапаць кароткіх сустрэч. Тады Грэйсі... выкрала мужа з турмы. Яна схавала яго ў сваёй машыне, якая стаяла побач з выхадам з бальнічнага корпуса, і правезла праз пасты аховы, якая ведала маладую сімпатычную медсястру і не правярала яе аўтамабіль.

Уцекачоў злавілі толькі праз тры месяцы на другім канцы Вялікабрытаніі — у Эдзінбургу. Эндру вярнулі за краты дасседжваць свой тэрмін, а ў адносінах Грэйсі суддзі абмежаваліся месяцам турмы і штрафам у 500 фунтаў за арганізацыю ўцёкаў зняволенага.

УСХОДНІ ГАРАСКОП

# РАКІ ПАЎЗУЦЬ ТОЛЬКІ НАПЕРАД

**КАЗЯРОГ** дасягне ўзлёту ў кар'еры і скарыстае перавагі, якія падораць яму планеты. Індыйскі астролаг Джагджыт Упал даведаўся з кнігі зорак, што вам трэба стаць уладальнікам значных сродкаў, з дапамогай якіх можна будзе пачаць амбіцыйны дзелавы праект.

У **ВАДАЛЕЯЎ** з'явяцца ўсе падставы адсвяткаваць поспехі ў бізнесе, якіх вы даб'яцеся ў самым пачатку снежня. У чацвер вам трэба будзе пакінуць убаку ўрачыстасці і падпісаць новы кантракт. Не выключана, што ў выніку яго выканання можна будзе поўнасцю змяніць стыль жыцця — у лепшы бок, зразумела.

**РЫБЫ** змогуць дазволіць сабе крыху расслабіцца. Спакойна адпраўляйцеся адпачываць, займайцеся спортам і асабістымі справамі. Зрабіце перапынак у рабоце. Усходныя мудрацы раяць вам не сумаваць і не даваць волю пачуццям.

**АВЕНЫ** застануцца пестунамі поспеху, які будзе спадарожнічаць вам увесь наступны тыдзень. Аўторак і субота стануць шчаслівымі днямі, асабліва для бізнесменаў. Дзяржслужачыя атрымаюць выгадную прапанову аб пераходзе на новую работу, і астролаг раіць не марудзіць і згаджацца. Маладажоны могуць адпраўляцца ў падарожжа, а ў адзінокіх Авенаў наперадзе сустрэча з чалавекам, які адыграе ў іх жыцці не апошнюю ролю.

У **ЦЯЛЬЦОЎ** у канцы тыдня вясёлая ўрачыстасць, а яго нагодай стане атрыманне даволі буйной сумы. Але планеты не рэкамендуюць вельмі доўга весяліцца. Хутчэй укладвайце грошы ў бізнес. Хутка вам прыйдзецца вырашаць важныя фінансавыя пытанні, якія могуць паўплываць на стан вашых спраў. Сачыце за здароўем.

**БЛІЗНЯТЫ** пакуль яшчэ карыстаюцца заступніцтвам планет, але хутка перыяд можа закончыцца. Пакуль не позна, вырашайце свае дзелавыя і асабістыя праблемы. Прыкладзіце намаганні, вы справіцеся з імі паспяхова. Не будуйце вельмі вялікіх планаў на будучыню. Жывіце сённяшнім днём, які падорыць вам многа добрага.

**РАК** не будзе паўзці назад, а планамерна рухацца да дасягнення сваіх мэтаў. Вы палепшыце свае фінансавыя пазіцыі дзякуючы адной дзелавой аперацыі. Яе лепш за ўсё ажыццявіць у аўторак або сераду. Не бойцеся рызыкі, якая, аднак, павінна быць разумнай. Падрыхтуйцеся загадзя, да непрыемнасцяў у сям'і, якіх, на жаль, вам не пазбегнуць.

**ІЛЬВЫ** пераканаюцца, што ўдача не заўсёды спадарожнічае іх фінансавым справам. Астролаг разгледзеў трэшчыну ў маналіце вашага дабрабыту, які крыху пахіснецца. Але не ўпадайце ў паніку — гэта толькі часовая з'ява. Калі дзейнічаць з розумам, то ў далейшым атрымаеце добрыя дывідэнды.

**ДЗЕВА** зможа дабівацца цудоўных вынікаў, прыкладаючы да гэтага мінімум намаганняў. У вас наступае цудоўны перыяд, калі планеты поўнасцю на вашым баку і гатовы зрабіць усё, каб нішто не пахіснула вашых фінансавых пазіцый.

**ШАЛІ** могуць чакаць перамен на рабоце. Вы акажацеся ў стане адплаціць сваім нядобразычліўцам на службе і пазбавіцца ад непрыемнасцяў з іх боку. Пазбягайце рэзкіх перамен у жыцці і ў дзелавых справах. Не спяшайцеся кіравацца парадамі навакольных. Яны акажуцца не заўсёды правільнымі. Устрымайцеся ад пачатку чарговага праекта, нават калі яго выкананне абяцае добрыя даходы.

**СКАРПІЁНЫ** знойдуць агульную мову з уплывовай персонай, якая акажа важную дапамогу ў рэалізацыі вашых планаў і пачынанняў. Дзякуючы гэтай падтрымцы вам будзе спадарожнічаць поспех на працягу не толькі гэтага тыдня, але і ўсяго месяца. У вас з'явіцца мноства заманлівых прапаноў, але мяняць месца работы прама цяпер астролаг не раіць.

**СТРАЛЬЦЫ** будуць поўнасцю задаволены плаўным ходам усіх сваіх спраў. Астролаг гарантуе поспех у фінансавых аперацыях, даходы ад якіх раяць неадкладна пускаць у дзелавы абарот. Не пагарджайце дапамогай дасведчаных людзей. Юныя Стральцы завершаць вучобу і паступяць на прэстыжную работу. Справы не перашкодзяць рамантычным прыгодам.

**Леанід КОТАЎ.**
**(ІТАР-ТАСС),**
*г. Дэлі.*

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: Рэдакцыя газеты «Звязда», вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, 220013, гор. Мінск.*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйнага — 68-27-41, крымінальнай хронікі, сакратарыята — 32-38-02, эканомікі — 32-31-21, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
***ФАКС:** 68-27-79. **E-mail:** daily@zwyazda.belpak.minsk.by* **«ДЛЯ ВАС»** — 32-44-12.



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку», Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 100.989. Індэкс 63850.
Зак. № 6928.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12